Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

21 чэрвеня 1991 г. ПЯТНІЦА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 120 (21648)

Цана 10 кап.

## Партыя—прыхільнік рэгулюемага рынку

**Забеспячэнне свабоды работнікаў вытворчасці, адкрыццё прасторы для новай матывацыі да працы, развіццё канкурэнцыі і прадпрымальніцтва — асноўная мэта пераўтварэнняў, якія пачаліся ў краіне. Дыскусія аб шляхах і формах карэннага павароту народнай гаспадаркі разгарнулася на навукова-практычнай канферэнцыі «Праблемы ўласнасці і цэнавай палітыкі ва ўмовах пераходу эканомікі да рыначных адносін», якая адбылася 15 чэрвеня ў ЦК КПБ.**

**У рабоце форуму, арганізаванага Цэнтральным Камітэтам Кампартыі Беларусі, Дзяржаўным камітэтам БССР па эканоміцы і планаванню, Саветам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыяй, прынялі ўдзел работнікі партыйнага і дзяржаўнага апарату, кіраўнікі прадпрыемстваў, вучоныя рэспублікі. Старшынстваваў на канферэнцыі першы сакратар ЦК КПБ А. А. Малафееў.**

# ЗАХАВАЦЬ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ЎКЛАД

## *Выступленне першага сакратара ЦК КПБ А. А. МАЛАФЕЕВА на навукова-практычнай канферэнцыі*

Паважаныя таварышы! У Кампартыі Беларусі, у яе Цэнтральнага Камітэта ёсць прамая, шчырая цікавасць да гэтай тэмы, якую мы сёння абмяркоўваем. У чым сутнасць пытання? Яна заключаецца ў тым, што праблемы пераходу на рыначныя адносіны павінны ажыццяўляцца ў інтарэсах народа, а не ў інтарэсах наваяўленых мільянераў, якія накапілі мільён не потам і працай, а ў выніку тых працэсаў, што ў апошні час адбываюцца ў нашай эканоміцы.

У Кампартыі Беларусі няма іншай мэты, акрамя той, каб грамадства жыло нармальным дэмакратычным жыццём, каб працоўны чалавек мог задавальняць свае надзённыя патрэбнасці. Партыя, якая займаецца толькі сваімі ўнутранымі пытаннямі, выкарыстоўвае палітычную кан'юнктуру, каб зарабіць танны аўтарытэт, не патрэбна людзям.

З другога боку, пры вырашэнні праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства мы не збіраемся вяртацца да старых метадаў работы. Мы будзем актыўна і наступальна дзейнічаць у рамках таго, што тыпова для палітычнай арганізацыі, але да таго, як жыве народ і як выкарыстоўваюцца магчымасці для павышэння яго жыццёвага ўзроўню, мы абыякавымі, безудзельнымі не будзем і не можам быць. Зыходзячы з гэтага, сённяшняя наша размова ў многім павучальная, мае вялікую цікавасць. Тут выказваліся розныя пункты гледжання і падыходы, гэта вельмі добра. Толькі разнастайнасць заахвочвае шукаць ісціну і прымаць тыя рашэнні, якія ў інтарэсах грамадства, інтарэсах практычнай справы.

Я, вядома, не думаю, што ў рамках адной канферэнцыі мы раптам паразумнелі такім чынам, што будзем ведаць, як ісці да рынку, як ажыццяўляць раздзяржаўленне, прыватызацыю, як не дапусціць перакосаў пры лібералізацыі цэн, не штурхнуць грамадства да новых эмацыянальных усплёскаў. Галоўная наша мэта — гэта зрабіць першы крок у адпрацоўцы той мадэлі рыначных адносін, якая павінна палепшыць жыццё народа.

Мы ідзём навобмацак, метадам спроб і памылак. Мы іх нарабілі за перабудову нямала. У выніку эмацыянальных меркаванняў, дэкларатыўнасці і палітычнай кан'юнктуры прымаліся такія рашэнні, якія да канца не даводзіліся, яшчэ больш заблытвалі абстаноўку ў грамадстве, і мы неслі каласальныя не толькі маральныя выдаткі, але і эканамічныя страты.

Слухаеш прамоўцаў, і складваецца ўражанне, што некаторыя сабраліся для таго, каб вырашыць, як хутчэй і каму прадаць дзяржаўную ўласнасць. Я думаю, такая пастаноўка пытання неправамерная. Сутнасць заключаецца ў тым, у якім грамадстве мы збіраемся жыць.

У рашэннях XXXI з'езда Кампартыі Беларусі канкрэтна і ясна запісана аб тым, што мы за такую мадэль грамадства, якая б гарантавала захаванне сацыялістычнага ўкладу, выключала б сацыяльнае расслаенне грамадства, забяспечвала б рост дабрабыту насельніцтва. Гады два з лішнім назад першапачатковая задума перабудовы, у аснове якой ляжала абнаўленне сацыялізму, неабходнасць зрабіць яго патрэбным і карысным для людзей, стала неяк непрыметнай. Адбылося расслаенне. Адны цягнуць грамадства на шлях капіталізацыі — гэта ўжо не словы, гэта практычныя дзеянні, якія мы можам назіраць у штодзённым жыцці; другія лічаць, што трэба пакінуць усё як было, праяўляюць настальгію аб мінулых часах. Грамадства нагадвае карціну перацягвання каната — адны ў адзін бок, другія ў другі. А ў канчатковым выніку церпяць людзі, якія ўвесь час гэтыя цяжкасці вымушаны браць на свае плечы. Калі гаварыць аб першапачатковых мэтах перабудовы, то мы не займаліся тым, каб сацыялізм быў прывабным для чалавека. Наадварот, многія разбуральныя з'явы скампраметавалі ў многім гэту грамадска-палітычную сістэму.

Сёння для крытыкі нашай рэчаіснасці вельмі шмат магчымасцей, практычна кожны гэта робіць, і робіць паспяхова. Галоўнае ж пытанне — што рабіць далей? Як выходзіць з гэтага стану, як спыніць зніжэнне жыццёвага ўзроўню людзей? Тут, на жаль, пакуль вычарпальных адказаў у нас няма. Вядома, гэта няпростае пытанне, і ўсе мы павінны думаць над яго вырашэннем.

Мы за разнастайнасць форм уласнасці, за пераважанне калектыўных, за вызначэнне межаў прыватнай. Мы за прыватызацыю пад кантролем дзяржавы.

У. І. Куранкоў, намеснік Генеральнага дырэктара аб'яднання «Белаўтамаз», які тут выступаў, правільна выказваў трывогі, клопаты, практычныя парады, гаварыў аб цяжкасцях, з якімі сутыкнуўся іх калектыў. Усё трэба яшчэ раз асэнсаваць. Вядома, на кожным прадпрыемстве ёсць свае асаблівасці. На першым этапе могуць быць розныя пункты гледжання. Гэта зусім зразумела. Тэндэнцыя пры раздзяржаўленні будзе сарыентавана на развіццё арэндных адносін. Якія іх формы, якая тут сістэма — гэта ўжо іншае пытанне. Гэта патрабуе пэўнай канкрэтызацыі. Калі пытанні раздзяржаўлення і прыватызацыі пойдуць не ў інтарэсах народа, і наваяўленыя мільянеры заўтра нахапаюць асноўных сродкаў, якія створаны ўсім грамадствам на працягу многіх дзесяцігоддзяў, гэта можа выклікаць буйнейшыя сацыяльныя ўзрушэнні. Трэба зрабіць усё, каб гэтага не адбылося.

Я думаю, што ў руках дзяржавы галоўным чынам будуць заставацца базавыя галіны, а таксама тое, што вызначае вырашэнне многіх сацыяльных пытанняў, дае чалавеку магчымасць рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы. Гэта ахова здароўя, народная адукацыя, культура. Карацей кажучы, усе галіны, якія працуюць непасрэдна на чалавека. Тут выказваліся правільныя думкі аб тым, што трэба больш рашуча і смела ісці на малую прыватызацыю, якая ў бліжэйшы час можа даць вынік. Гэта гандаль, бытавое абслугоўванне, грамадскае харчаванне.

Буйное палітычнае, псіхалагічнае пытанне — прыватызацыя жылля. Кампартыя павінна мець дакладную пазіцыю. У бліжэйшы час з дапамогай навуковай думкі і практычных рэкамендацый неабходна выпрацаваць адпаведную мадэль вырашэння гэтай праблемы, што будзе грунтавацца на прынцыпах справядлівасці і разважнага сэнсу, атрымае падтрымку грамадства. Трэба ўлічваць, што жыльцы практычна выплацілі кошт кватэр. Іншая справа, якой павінна быць плата за лішнюю плошчу. Тут неабходна параіцца з людзьмі.

Некалькі слоў па прыватнай уласнасці на зямлю. Думкі і пазіцыі розныя. Не выпадкова сёння адносіны да яе нярэдка з'яўляюцца аб'ектам палітычных спекуляцый, таму што, калі прыватная ўласнасць будзе ўстаноўлена на зямлю, то яна пойдзе і ў іншыя галіны, ніякіх абмежаванняў ужо быць не можа.

Я лічу, што рашэнне Вярхоўнага Савета рэспублікі аб уласнасці на зямлю правільнае і адпавядае інтарэсам людзей. Магчымасць чалавека атрымаць зямлю ў пажыццёвую спадчыну з правам распараджацца сваёй прадукцыяй — гэта менавіта тое, што сёння трэба, тое, што дапаможа павялічыць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі. Я думаю, што іменна гэтага прынцыпу нам трэба і прытрымлівацца, таму што калі дазволіць продаж зямлі, то гэта створыць умовы для спекуляцыі, узвінчвання цэн на прадукты харчавання, выдалення дзяржавы ад іх рэгулявання.

Але ёсць і другі бок праблемы. Нельга ў сельскай гаспадарцы чапляцца за старыя формы. Сёння ж у калгасах і саўгасах патрабуюцца зусім іншыя вытворчыя адносіны. Грамадскія гаспадаркі пазбаўлены магчымасці ў поўнай меры распараджацца атрыманай прадукцыяй. Праўда, нельга дапускаць тут і крайніх мер, якія сёй-той прапануе. Трэба збаўляцца ад вядомай прадузятасці да фермерскіх гаспадарак. Але ўсё пытанне заключаецца ў тым, як забяспечыць іх тэхнікай, іншымі матэрыяльна - тэхнічнымі рэсурсамі. Фермер ходзіць, кленчыць, прыніжаецца, каб кілаграм цвікоў недзе дастаць. Дарэчы, сёння пераразмяркоўваць няма чаго, таму што калгасы і саўгасы ў апошнія гады аказаліся ў цяжкім становішчы. Дзяржава перастала па-сапраўднаму займацца імі. А вырашэнне харчовай праблемы нельга адкласці на заўтрашні дзень. Сёння нічым не апраўданая палітыка ў адносінах да калгасаў і саўгасаў адлюстроўвае сутнасць таго, што адбываецца, асабліва з устанаўленнем свабодных цэн на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння.

Вёска аказалася найбольш неабароненай пры пераходзе да рынку. Яна перажывае адзін з самых драматычных этапаў у сваёй гісторыі. Таму выключнай, якая не цярпіць прамаруджвання, уяўляецца задача абароны сялянства ад стыхіі рыначных адносін, аднаўленне парытэтнасці алносін паміж горадам і вёскай. Меры, намечаныя і саюзным, і рэспубліканскім урадамі, яўна недастатковыя. Патрэбны дадатковыя намаганні, каб пазбегнуць катастрофы. Выхад тут у поўнай кампенсацыі калгасам і саўгасам велізарных дадатковых затрат. Для гэтага трэба адшукаць у рэспубліцы дадаткова 4 мільярды рублёў. Пытанне няпростае. Але без яго вырашэння ніякіх зрухаў наперад у нас не будзе.

Некалькі слоў аб лібералізацыі цэн. Трэба называць рэчы сваімі імёнамі. Так, ва ўмовах рынку лібералізацыя цэн непазбежна. Але ў якое становішча яна паставіць чалавека працы? Цэнавая рэформа нас ужо многаму навучыла. Хацелі б мы ці не хацелі, а трэба шукаць шляхі, хоць гэта і цяжка, для таго, каб на асобныя прадукты харчавання, на некаторыя тавары ўсё-такі шукаць магчымасці зніжэння цэн. Хоць сёння гэта здаецца быццам бы нелагічным, таму што зарплата павышаецца ў 1,5—2 разы, а тавараў для пакрыцця грашовых даходаў насельніцтва няма. Гэта можа прывесці да суперінфляцыі, да непазбежнага павышэння цэн. Выхад тут у тым, каб настойліва павялічваць вытворчасць, і перш за ўсё спажывецкіх вырабаў. Інакш нам не пазбегнуць сур'ёзных сацыяльных усплескаў, якія могуць прывесці да поўнага паралічу эканомікі і кіравання. Наша задача — не дапусціць самавольства ў цэнаўтварэнні, што не-не ды і праяўляецца кіраўнікамі асобных прадпрыемстваў або галін. Нядаўна, напрыклад, Мінскаграпром увёў свабодныя цэны на агародніннную прадукцыю. Безумоўна, трэба кампенсаваць калгасам і саўгасам затраты на вытворчасць агародніны. Але нельга ж гэта рабіць за кошт людзей. Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі будзе даваць такім фактам прынцыповую палітычную ацэнку.

Вядома, па меры набліжэння да рынку, па меры насычэння яго таварамі цэны будуць балансавацца попытам і прапанаваннем. Мы нікуды не дзенемся ад гэтага, але цяпер магчымасць лібералізацыі цэн павінна кантраляваццa Вярхоўным Саветам і ўрадам рэспублікі.

Думаю, мы правільна зрабілі, выносячы на абмеркаванне навукова-практычнай канферэнцыі пытанне, што хвалюе літаральна кожнага жыхара рэспублікі. І ў дакладах, і ў выступленнях выказана нямала цікавых і карысных прапаноў па праблемах прыватызацыі раздзяржаўлення ўласнасці, цэнаўтварэння, іншых аспектах пераходу на рыначныя адносіны. Усё гэта павінна знайсці адлюстраванне ў рэкамендацыях канферэнцыі і прымяненне ў нашай практычнай рабоце. Мы і ў далейшым маем намер актыўна выкарыстоўваць увесь наш навукова-эканамічны патэнцыял у інтарэсах удасканалення вытворчых адносін, павышэння эфектыўнасці эканомікі, паляпшэння жыцця людзей.

## Будзем будавацца

Прадукцыю вытворчага аб'яднання «Смаргоньсілікатабетон» будаўнікі добра ведаюць: яна вызначаецца высокай якасцю, пабудовы featurerознага прызначэння атрымліваюцца з яе трывалымі, надзейнымі. Адно дрэнна: не хапае, вельмі не хапае пакуль на будаўнічых пляцоўках цэглы і блокаў. Каб павялічыць выпуск гэтай прадукцыі, смаргонцы стварылі акцыянернае таварыства, у якое ўвайшлі мясцовы завод аптычнага станкабудавання, райаграпрам, раённае вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі, трэст № 20 са Светлагорска і, вядома, ВА «Смаргоньсілікатабетон». Аб'яднанне фінансавых рэсурсаў членаў акцыянернага таварыства дасць магчымасць, правёўшы рэканструкцыю прадпрыемства — а яна каштуе каля 5 мільёнаў рублёў — істотна пашырыць вытворчасць сілікатнай цэглы.

Спецыялісты аб'яднання падтрымліваюць цесныя сувязі з навукай, і гэтая садружнасць дае ім магчымасць абнаўляць прадукцыю, паляпшаць яе якасць. Так, у будучым годзе тут пачне дзейнічаць лінія па выпуску блокаў меншай шчыльнасці. У выніку яны будуць лепш захоўваць цяпло ў будынках, паменшыцца іх вага, расход матэрыялаў пры вытворчасці. Галіновы НДІ, правёўшы даследаванне ўзораў новай прадукцыі, даў такое заключэнне: «Ячэісты бетон, атрыманы ў ВА «Смаргоньсілікатабетон», мае больш высокія будаўніча-эксплуатацыйныя якасці, чым ячэісты бетон той жа шчыльнасці замежных аналагаў». Вось так. А мы кажам — заграніца...

Ужо тры гады, як калектыў аб'яднання ўзяў яго ў арэнду. Гэта дало яму больш самастойнасці ў распараджэнні заробленымі грашыма. Значная частка іх ідзе зараз членам калектыву ў якасці розных даплат і кампенсацый, што істотна павялічвае іх сацыяльную абароненасць.

Сярод планаў калектыву — выкупіць аб'яднанне, стаць яго ўласнікам. І нарошчваць магутнасці, каб хоць часткова зменшыць напружанасць з будматэрыяламі. Так што ёсць надзея: будзем будавацца больш.

**Я. ЧАПЛЯ.**

**На здымках:** тэхнолаг цэха вытворчасці цэглы Іна **ВІЛЬКЕВІЧ;** ідзе адгрузка прадукцыі.

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

*— На сесіі Вярхоўнага Савета БССР —*

# Будзем са сваім Прэзідэнтам. З якім?

**Ці прыбавіцца Прэзідэнтаў у нашай краіне і ці будзе сярод іх беларускі? Дэбаты па гэтаму пытанню занялі істотную частку рабочага часу дэпутатаў. Пытанне, відаць, вартае таго: размова ідзе аб прынцыпова новай будове нашай дзяржавы.**

Якія ж аргументы на карысць прэзідэнцтва вылучыла Камісія па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання, якой была даручана прапрацоўка пытання? Як дакладваў на сесіі старшыня камісіі Уладзімір Леўчык, настаў час зрабіць гістарычны выбар: якім шляхам ісці далей? Старой, наезджанай дарогай, што прывяла грамадства да глыбокага крызісу, альбо шляхам перапрафіліравання ўсіх структур дзяржаўнай улады? Вынікі нялёгкай працы нашага парламента, падкрэсліваў прамоўца, часта аказваюцца малаэфектыўнымі, многія прымаемыя законы не працуюць — таму, што ў рэспубліцы адсутнічае моцная выканаўчая ўлада. Мець яе не ўяўляецца магчымым, не ўвёўшы інстытут прэзідэнцтва.

На думку камісіі, увядзенне прэзідэнцкай улады будзе гарантаваць рэальны суверэнітэт рэспублікі, узды́ме яе прэстыж у міжнародных адносінах. Прэзідэнцкая рэспубліка, у адрозненне ад парламенцкай, больш стабільная і адначасова больш гібка прыстасоўваецца да розных сітуацый і расстаноўкі палітычных сіл.

Першапачаткова пастаянная камісія прадстаўляла праект Закона аб заснаванні пасады прэзідэнта, дзе замацоўвалася яго выбранне непасрэдна насельніцтвам, але першага — на сесіі Вярхоўнага Савета. У ходзе наступных кансультацый, вывучэння прапаноў узнік і новы пункт погляду: выбары Прэзідэнта павінны быць усенароднымі, бо толькі тады ён будзе дастаткова незалежным, над ім не будзе вісець пастаянная пагроза адстаўкі.

Якімі ж паўнамоцтвамі, на думку камісіі, павінен валодаць Прэзідэнт? Ён узначальвае ўсю сістэму органаў кіравання, прадстаўляе для выбрання Старшыню Саўміна рэспублікі, уваходзіць у парламент з прадстаўленнем аб яго вызваленні. Прэзідэнт ставіць пытанне аб адстаўцы ўрада, назначае і вызваляе яго членаў.

Акрамя таго, ён мае права адмяняць пастановы і распараджэнні Саўміна, прыпыняць рашэнні мясцовых Саветаў, што супярэчаць закону. Ён можа аператыўна, не чакаючы сесіі адпаведнага Савета, адмяніць акцыі, якія парушаюць правы і свабоды грамадзян, перашкаджаюць нармальнаму развіццю эканамічных адносін і г. д.

Як бачым, Прэзідэнт надзяляецца даволі вялікімі паўнамоцтвамі. Ці не прывядзе гэта да дыктатуры? На думку камісіі, перашкодзіць гэтаму здольны асноўныя палажэнні тэорыі раздзялення ўлад, што адлюстраваны ў законапраекце. Прэзідэнт не мае права роспуску або прыпынення дзейнасці Вярхоўнага Савета, іншых законна выбраных органаў дзяржаўнай улады. Зыходзячы з гэтага, кіраўнік выканаўчай улады не мае магчымасці ўстанавіць рэжым дыктатуры, распусціўшы прадстаўнічыя органы. У законапраекце прадугледжаны кантрольныя паўнамоцтвы парламента за дзейнасцю Прэзідэнта. Так, Вярхоўны Савет мае права змяніць Прэзідэнта ў выпадку парушэння ім канстытуцыі і законаў рэспублікі, а таксама адмяніць яго ўказы — па той жа прычыне. Ёсць і адваротная сувязь: Прэзідэнт, які валодае правам заканадаўчай ініцыятывы і падпісвае законы, можа вярнуць закон са сваімі пярэчаннямі.

Прэзідэнт не можа прапаноўваць кандыдатуры старшыні і членаў Камітэта канстытуцыйнага нагляду (які, як вядома, кантралюе адпаведнасць рашэнняў Прэзідэнта канстытуцыі і законам), старшыні Вярхоўнага Суда, Генеральнага пракурора рэспублікі, старшыні вышэйшага гаспадарчага суда, старшыні праўлення нацыянальнага банка.

Увядзенне прэзідэнцтва — вялікая, працяглая работа, якая павядзе за сабой змяненні ў радзе раней прынятых законаў, у Канстытуцыі рэспублікі. Ці гатовы мы да такой работы? Выступаючых, як паведамлялася, запісалася аж 45. Паслухаем некаторых з іх.

Генадзь **Казлоў:** Пытанне сёння стаіць так: трэба ці не нашай рэспубліцы сістэма прэзідэнцкай улады? Адказ адзін: трэба. На жаль, мы ўпускаем час: яшчэ 16 мая 1990 года звыш ста народных дэпутатаў БССР прапаноўвалі ўвесці гэтую пасаду. Але тады гэту ідэю праігнаравалі.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# «ДАПАМАЖЫЦЕ СТАЦЬ ФЕРМЕРАМ»

**У «Звяздзе» за 8 мая пад рубрыкай «Вёска: адраджэнне гаспадара» быў змешчаны матэрыял «Я — аптыміст...». У ім расказвалася пра цікавага, неардынарнага, улюбёнага ў зямлю чалавека — арандатара Аляксандра Казлоўскага з вёскі Белабокі Браслаўскага раёна.**

**Аднак вось якая характэрная дэталь. Пасля публікацыі водгук на яе адразу даслаў, хто вы думаеце? Сам герой артыкула і папрасіў даць яму слова ў газеце. Ахвотна прадастаўляем такую магчымасць.**

**Цікава, аб чым хочацца выказацца чалавеку, што яго хвалюе?**

— Як толькі калгаснікам далі невялікае паслабленне ў выглядзе арэнды, я ўхапіўся за яе, як той тапелец за саломінку. Да таго часу ўжо меў пэўны вопыт у сваёй рабоце—апаратара машыннага даення. Узяў у арэнду памяшканне, 30 кароў і пачаў новую справу. На наступны год пайшоў далей. Заарандаваў 35 гектараў зямлі, сам улетку пасвіў жывёлу, сам нарыхтоўваў для яе кармы. Ужо ў той час адчуў, што не ўсім такая, нават паўсамастойнасць падабаецца. Давялося абіваць парогі кабінетаў начальнікаў розных рангаў, каб не ставілі мне палкі ў колы кіраўніцтва калгаса.

Але ўсю сілу нашых бюракратычных структур я адчуў на сабе пасля таго, як памкнуўся выйсці з калгаса. У красавіку падаў заяву аб выдзяленні да арандуемых яшчэ 15 гектараў зямлі і заявіў аб жаданні стварыць фермерскую гаспадарку.

Цяпер я міжволі ўспамінаю дзядзьку з паэмы Я. Коласа «Новая зямля». Варта было яму раз з'ездзіць у Вільню ў зямельны банк, як справа вырашылася. А дзе толькі не давялося пабываць мне. І на нарадзе ў Віцебску, і на пасяджэннях райвыканкома і зямельнай камісіі, і ў старшыні РАПА і яго падначаленых, і ў райкоме партыі. Колькі часу страчана! Вышэйшае начальства спачувае, спагадлівыя словы гаворыць, дапамагчы абяцае. А прыеду дамоў — стоп! Старшыня калгаса ні з месца. Цяпер мне здаецца, што калгас у нас самая галоўная інстанцыя. Больш дакладна будзе сказаць, не калгас, а яго старшыня Чеслаў Лявонавіч Баброўскі. Не падабаецца яму фермерства — і ўсё тут. Чаго добрага ўслед за мной і іншыя захочуць выйсці з калгаса. Кім жа тады кіраваць?

Скажу шчыра: многага я не патрабую. Як гаварыў вышэй, прашу 50 гектараў зямлі, ды за кошт маёй долі ў агульнакалгаснай маёмасці 8-9 кароў, цялятак, якія атрымаў сёлета ад арандуемага статка, і сёе-тое з прычапнога інвентару (большасць жа патрэбнай тэхнікі я купіў за ўласныя грошы). Калгасная ж бухгалтэрыя ніяк не можа падлічыць маю долю. Сума, налічаная з першага заходу, вельмі не спадабалася старшыні, і ён аддаў загад пералічыць. Баіцца пераплаціць!

Дарэчы, калі майго дзеда «запрашалі» ў калгас, звялі з падворка ўсю жыўнасць, прыхапілі і яшчэ тое-сёе. Але Бог з ёй, з дзедавай маёмасцю. Я на яе не прэтэндую, а патрабую тое, што зарабіў уласным мазалём. Ч. Баброўскі заводзіць цікавую арыфметыку. Скажам, падгадаванае цялё калгас купляе ў арандатараў па 1 рублю 69 капеек за кілаграм жывой вагі. Мне ж прапануе купляць за вышэйшую цану. Не магу зразумець, чаму? Я ж гадаваў цялё на ўласных кармах і вымушаны яшчэ пераплочваць. Да таго ж і долю маю ў калгаснай маёмасці збіраюцца налічваць па старых цэнах. Дзе логіка?

А нядаўна мяне «абрадаваў» выконваючы абавязкі старшыні РАПА В. Давыдаў. Высвятляецца, лёс мой вырашыцца на агульным сходзе калгаснікаў, які адбудзецца ў канцы чэрвеня. А мне ўжо цяпер трэба ведаць, дзе будзе мая паша, каб падкарміць яе, падкасіць, ды і сенакос надыходзіць. Чаго я павінен чакаць? Я працаваць хачу. У мяне пяцёра дзяцей і хочацца, каб яны засталіся ў вёсцы, палюбілі і адрадзілі зямлю, якую за час існавання калгаснага ладу настолькі атруцілі, што коніка ў траве не ўбачыш. І яшчэ аднаго я не магу зразумець. Чаму мой лёс павінен вырашаць агульны сход калгаснікаў і старшыня, які мяне не паважае. Я ж не немаўлятка нейкае.

Не падумайце, што маю намер замахнуцца на калгасны лад, але не хачу ні сам быць рабом такога ладу, ні каб яго зведалі мае дзеці.

Вось і прашу: дапамажыце стаць фермерам, быць сапраўдным паўнаўладным гаспадаром!

**Аляксандр КАЗЛОЎСКІ,**
**арандатар калгаса імя Кірава Браслаўсакага раёна.**

# І КНІГА ТАКСАМА ВАЯВАЛА...

Прашытыя чэргамі фашысцкіх кулямётаў, прабітыя снараднымі асколкамі кнігі, якія беражліва дасталі са спецыяльнага сховішча Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна... Як раненыя, але не пакораныя ворагам салдаты, яны зноў занялі ў гэтыя дні баявы пост на стэлажах адкрытай тут экспазіцыі «так пачыналася вайна». Выстаўка прымеркавана да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Аб многім расказалі б прастрэленыя, пажаўцелыя ад часу фаліянты, калі б маглі гаварыць. Аб тым, напрыклад, як карпатліва і настойліва збіралі іх па ўсёй краіне супрацоўнікі «Ленінкі» перад вайной. Як, не паспеўшы абжыцца ў фондах, гарэлі яны ад гітлераўскіх бомб, што абрушыліся ў першы ж дзень вайны на мірны Мінск. Нямногія з цудам уцалелых кніг перажылі ваенную пагрозу ў патаемных месцах на мінскіх гарышчах і ў падвалах. Але былі і такія, якія пракурыліся дымам партызанскіх кастроў, абтрапаліся ў пахадных рэчмяшках салдат і афіцэраў-франтавікоў. Так, кнігі ваявалі, саграваючы цяплом сваіх радкоў стомленых байцоў. І тыя пранеслі іх праз агонь, каб вярнуць да папялішча галоўнай бібліятэкі рэспублікі. Каб пачала яна адраджацца амаль з нуля...

Юбілейную экспазіцыю — своеасаблівы кніжны летапіс вайны — арганічна дапаўняюць плакаты франтавой пары, сярод якіх славуты «Радзіма-маці кліча!» і іншыя, выданні аб Вялікай Айчыннай на замежных мовах.

**Л. ТРАЦЭЎСКІ,**
**кар. БЕЛТА.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

